Народная Воля
21 ЛЮТАГА 2003 г.

ПА КРАІНЕ

# Ціха жыве Лунінец

*Лунінец прыгадваецца ў гістарычных дыярыушах з 1449 года як Малы Лунінец — шляхетных паноў уласнасць. Сціплая вёсачка згубілася сярод густых лясоў і бясконцых балот.*

*Праз паўтара стагоддзя мясціна Лунінец "прыбілася" да Навагрудскага павета і мела ў сваім "арсенале" да сотні дымоў. Пашанцавала местачковаму люду на гаспадароў: Друцкія-Лубяцкія, Граўжынскія, Кунцэвічы, Далматы.*

*З 1739 года лунінецкія дымы перайшлі пад Пінскі павет, а Расійская імперыя нанесла чужыя дымы на свае мапы.*

*З 1884 года ў Лунінца "выраслі крылы": навакольныя лясы поўніліся творча-будаўнічым тлумам — палеская чыгунка абудзіла край замест простых вясковых дымоў над сціплымі мясцінамі загаспадарыла вялікая бочка з дымам на жалезных колах — паравоз.*




## Кукарда прадзеда Янука Бірулі

Расійская імперыя набіла руку на будоўлях стагоддзя — чыгунках. За два гады спілаваць сотні тысяч соснаў, пакарчаваць, загаціць балоты на сотні вёрст, накласці тысячы і тысячы прасмаленых шпалаў, прывінціць да іх сталёвыя рэйкі — спявай, бочка з дымам.

Мой прадзед, матулін дзед Янук Біруля, браў удзел у будаўнічых баталіях, быў галоўным па гужавай сіле. Усе возчыкі наваколля, што вазілі каменне, жвір, цягалі бярвенні, падпарадкоўваліся яму, Януку, мелі з ягонае ласкі прыварак за старанную работу. Рыпелі тыя вазы ад світання да зорных пацалункаў.

У дзеда Сцяпана Бірулі, матулінага бацькі, у хаціне пад Радкавам, гэта ад Старобіна 20 вёрст, доўгі час на бачным месцы цешыла вока царава ганаровая падзяка. Гэта вам не савецкая ганаровая грамата за 18 капеек да гадавіны БССР. Залатыя вензелі, прыгожа выведзена прозвішча Янука Бірулі і аўтограф цара-бацюхны. За стараннасць, за чэснасць, за працу ўдарную.

З тае царскае ласкі Януку дазвол быў насіць да скону ганаровую фуражку чыгуначніка з залатой кукардай і парадны кіцель з залатымі гузікамі. Такому ганароўцу пры ўсім "парадзе" царскі жандар чэсць аддасць, а стараста за добрае сукно пасадзіць. Царскі жандар, але не савецкі...

У 39-м танкісты Чырвонай Арміі, запыленыя вераснёўскім пылам, ахмялелыя ад вызваленчага паходу супраць панскае Польшчы, адвялі душу над дзедавай рэліквіяй. Наквасіўшы самагонкі, начапілі на яблыню кіцель з залатымі гузікамі і доўга смалілі з карабінаў. А за грамату ад цара-бацюхны за бацьку Янука давялося адказваць сыну Сцяпану. Берыеўцы цягалі яго на допыты, золата шукалі, але адкупіўся Сцяпан трыма гадавалымі вепрукамі.

## Валацуга з Бастыні — «сваяк» прэзідэнта Амерыкі

Трынаццаць гадоў таму слава пра Івана Васільевіча БУШЫЛУ разнеслася па ўсім свеце. Лунінец, вёска Бастынь, спадар Бушыла — усе разам трапілі ў знакамітую Кнігу рэкордаў Гінеса.

А пачалося са студзеня 1990 года. Іван Бушыла закрасаваўся на бачынах кнігі ў сваёй вашывай, зашмальцаванай ватоўцы. На фоне згібелай ад часу і даўно "мёртвай" роднай хаты. Тэкст да здымка я дыктаваў маскоўскаму рэдактару "Гінеса": былы франтавік 42 гады жыў у глухім лесе, хаваўся ад людзей. Не дагадзіў раённым чэкістам, збег ад кулі старшага лейтэнанта з "ворганаў". Адзіным сувязным гаротнага Івана Бушылы быў родны пляменнік Павел, якога і цяпер у Бастыні завуць ПАША ЗЭК.

— Что-нибудь особенное, побольше бытдеталей, — крычаў у слухаўку масковец, — как он жил в лесу, что ел, пил...

"Ворагу тое жыццё ў лесе", — падумалася мне, але ж:

— Адну ватоўку насіў дзве пяцігодкі, кірзачы не здымаў усё лета, ногі адгнівалі. Пранасіў у кішэні чырвонец 47-га года дваццаць гадоў, працёр да дзірак. Галіўся нямецкай брытвай, варыў ежу ў нямецкай касцы, лячыўся зёлкамі ад хваробаў, спаў у шалашы, сотні разоў перачытваў газету "Правда", што патрапіла да яго ад ПАШЫ. Каб не забыцца свайго голасу, гутарыў з раслінамі, казюркамі, птушкамі. І доўгімі тыднямі чакаў пляменніка ПАШУ...

Трынаццаць гадоў таму разам з сабкорам "Труда" па Беларусі Сяргеем Ваганавым мы наведалі Бастынь, нямала часу правялі з Іванам БУШЫЛАМ.

А перад тым як развітацца, БУШЫЛА пахваліўся новенькім сярпаста-малаткастым, выдалі яму пашпарт надзіва хутка. І якая непрыхаваная радасць, першы ў жыцці пашпарт, за 68 гадоў жыцця, з іх — 42 гады ў лесе, хаваючыся ад людскіх вачэй, як воўк, абложаны паляўнічымі.

## Жукаўскі «хамут», бабруйскі крывавы кацёл і «шчаслівая» Курская дуга

Лунінецкі краязнаўчы музей ганарыцца унікальным набыткам — старадрукам "Мінеі чэцці" (месяц жнівень), датаваным 1705 годам выдання. Шмат дакументаў і пра "партызанку" — гады змагання ў Вялікай Айчыннай. Лунінец апынуўся на перакрыжаванні жыццёва важных чыгуначных артэрый. Імчалі вайсковыя саставы на Брэст, на Львоў, на Мінск.

У тым жа краязнаўчым музеі захоўваецца сціплы здымак. Маладзенькі салдат з адзінай узнагародай — медалём "За адвагу". Але вочы...

Мы сядзім з ссівелым, стомленым на жыццёвых перакрыжаваннях святаром, настаяцелем Крыжаўздвіжанскага храма. Гэта ягоны здымак у краязнаўчым музеі...

— Мяне забралі ў трыццаць дзявятым. Праз паўгода прыгналі на станцыю Тайшэт, на будаўніцтва чыгункі з горада Абакана і далей, да Тайшэта. Баракі, калатун, міска поліўкі, здзекі. Палова не вытрымала, знайшла вечны спакой у гіблых мясцінах, на хакаскай зямлі.

Аднойчы, ужо падчас вайны, начальнік лагера загадаў пастроіцца, але не стаў чакаць, адно аб'явіў:

— Жрать нечего, фронт задыхается, враг наглеет, а вы — контра... Но я — добрый. Хто доползет до дороги, вскочит сам на борт... Того и возьмем. Остальным — воля...

З тысячы небаракаў да машын дабралася мо сотня, а на борт ускараскалася палавіна. Астатнія... Божа, колькі ж іх навек палегла ў зімовую дамавіну...

Ацалелых адвезлі пад Абакан, трошкі адагрэлі, пакармілі і — пад Маскву. Мы — штрафнікі, у жукаўскіх батальёнах смерці.

Перад боем зампалітаўская "чаканка": "Вы — злачынны элемент, але Радзіма і таварыш Сталін... Крывёю выкупіце ласку Радзімы..."

Так было і пад Мажайскам, і пад Валакаламскам. Пад Бабруйскам дывізія злачыннага элемента сышлася ўрукапашную з уласаўскай дывізіяй. Амаль не стралялі. Ведалі, твой вораг у нямецкім шынялі, а ўласаўцы прапорвалі штыхамі, нажамі нашыя паўшубкі.

Айцец Мікалай замаўчаў, нялёгка пракручваць у памяці свой крыжовы шлях у той страшэннай вайне.

— Я ацалеў і пад Бабруйскам, лёгкая кантузія. Пасля бабруйскага катла Курскую дугу сваёй крывёй выпрамляў. Цяжка параніла, выкупіў крывёю ласку Радзімы... І ўжо паўстагоддзя служу Богу...

## Бабры, норкі, нутрыі — крок наперад

Усеахватная газіфікацыя буйных палескіх мястэчак — справа архіважная, у правадыра нашага на пільным кантролі. І каб ён не намыліў шыю ўвосень, газавікі давалі копаці ўлетку.

Мой даўні знаёмца, прараб перасоўнае калоны з Салігорска, руку набіў на датэрміновых "газавых агеньчыках", быў на гарачым прарыве і на Палессі, з гумарам прыгадваў, як там дзеелася.

— Шухер на ўсе Ганцавічы, Лунінец, Жыткавічы. З Мінска ганцы кулакамі перад носам трасуць: даеш газіфікацыю! А мясцовыя начальнікі за шмон прыняліся... Рэпетыцыі, канешне ж, — як без іх. За два дні да прылёту цара-бацюшкі — генеральны трасун. Выйшлі ўсе, ад касіркі да вертыкальнага. А тым, у каго на галаве бабёр, норка, выдра, — крок наперад... Каб усе бачылі, як заможна жывем у Лунінцы. І тэлекарцінка пайшла на ўсе абшары. І з газам, і з бабром на галаве.

Ціха жыве Лунінец. Тубыльцы чытаюць сваю мясцовую "Правду" — "Лунінецкія навіны" па-расійску, міліцыянты з ДПСам на грудзіне пасвяцца на ажыўленай некалі, а цяпер соннай аўтаасфальтоўцы Пінск—Жыткавічы, дрэваапрацоўшчыкі пілуюць хваёвыя дашчэчкі для Польшчы. Лакаматыўныя спяцы даводзяць да ладу ўшчэнт дабітыя за гады савецкіх пяцігодак цеплавозы.

Мясцовая моладзь пляскае ў ладкі, калі на габляваных дошках райпалаца таньчыць усмешліва-салодкі "суперзорка Беларусі" — Саша Саладуха.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**

ЭКСТРИМ

## Телевизор тазиком не затушишь

Владелец квартиры в одном из домов по улице Энгельса сдал ее в наем пожилому ливанцу. Иностранец более месяца в Минске задерживаться не собирался. Поэтому, возможно, его не смутило, что придется коротать вечера перед телевизором, выпущенным еще в конце 70-х годов.

В пятницу вечером, проводив гостей, квартирант отправился в ванную, не выключив телевизор. Во время купания ливанец услышал взрыв. Выскочил — горит телевизор. Схватил тазик и бросился тушить разгорающийся пожар.

Бедолага несколько минут метался между ванной и комнатой с тазиком в руках. Спасателей по понятной причине вызвать не мог. Вызвали их соседи.

Огонь был потушен за 20 минут. Над телевизором потрескалась и осыпалась штукатурка. А поскольку перекрытия в доме деревянные, спасателям пришлось вскрыть потолок, чтобы убедиться в отсутствии скрытых очагов. И хотя спасатели сделали в потолке небольшую дырку, хозяину квартиры придется выложить крупную сумму за ремонт.

## Прекрасным воскресным утром

Прекрасным воскресным утром хозяин квартиры в одном из домов по улице Краснослободской, что в Минске, включила 12-летний "Горизонт-411" и задремала.

Проснулась она от того, что стало трудно дышать. Открыла глаза и ничего не увидела, точнее, увидела дым. Горел телевизор. Приехавшие по вызову спасатели эвакуировали женщину и затушили пожар за пять минут. Хозяйку квартиры, получившую отравление продуктами горения, госпитализировали.

В результате пожара обгорели тумба, на которой стоял телевизор, оконная рама, люстра. А от телевизора остались рожки да ножки, так что причину возгорания заводу-изготовителю установить вряд ли удастся.

## Как сгорел дом

В субботу около двенадцати дня полностью сгорел дом-времянка в 1-м Холмогоровском переулке.

Старушка хозяйка смотрела цветной ламповый "Горизонт-730", вдруг он затрещал и из корпуса повалил густой черный дым. Пока старушка доковыляла до дома, где живут сын с внуком, и пока те нашли телефон (все ближайшие дома определены под снос, ни в одном из них телефона не было) и вызвали спасателей, прошло немало времени. К моменту прибытия пожарных дом был полностью охвачен огнем. Несколько бригад справились с пожаром за полчаса, не допустив распространения огня на соседние постройки.

**Информация к размышлению:** по правилам пожарной безопасности, срок эксплуатации телевизоров со дня покупки — 10 лет.

**Павел АРТЮШКЕВИЧ.**

## Правила, которым следует подчинить свою жизнь

Самый большой грех — **страх**.
Самый лучший день — **сегодня**.
Самый лучший город — **где преуспевают**.
Самая лучшая работа — **которую любишь**.
Самый лучший отдых — **работа**.
Самая большая слабость — **ненависть**.
Самый большой нарушитель спокойствия — **болтун**.
Самая нелепая черта характера — **самомнение**.
Самый опасный человек — **лжец**.
Самая большая потребность — **в общении**.
Самое большое богатство — **здоровье**.
Самый большой дар — **любовь**.
Самый большой друг — **хорошая книга**.

**Так считает Сергей ЛАТЫШЕВ.**

ПРЭМ'ЕРА!

# Зачараваныя танцам

*Прыхільнікі балета, напэўна, паспелі звярнуць увагу на афішы, якія запрашаюць 22* ***лютага*** *наведаць* ***Беларускі музычны тэатр****, дзе адбудзецца творчы вечар салістаў балета тэатра* ***Юліі ДЗЯТКО*** *і* ***Канстанціна КУЗНЯЦОВА****.*

Значны час Юля і Канстанцін супрацоўнічаюць са сваім аднадумцам і сябрам **Раду Паклітару** — вядомым харэографам, які з асалодай прыдумвае для іх арыгінальныя пастаноўкі.

*"Юля і Косця дасканала валодаюць сучаснай пластыкай,* — расказвае Раду. — *У іх вялікая практыка стасункаў з заходнімі трупамі. Я працаваў у розных тэатрах і бачыў шмат якіх танцоўшчыкаў, але ніколі і ніхто не прапаноўваў падчас рэпетыцый столькі новых ідэй, як яны. Мы заўсёды працуем сумесна".*

Адной з першых работ трыо Паклітару—Дзятко—Кузняцоў была кампазіцыя "Флейта Пана", у якой балетмайстар скарыстаў арганную музыку і кампазіцыі вядомага румынскага флейтыста Георге Замфіра. Балетныя гурманы добра памятаюць гэтую незвычайную пастаноўку.

Прайшло пяць гадоў. Раду Паклітару за гэты час паспеў набыць шырокую вядомасць у краінах блізкага і далёкага замежжа. Балеты ў яго пастаноўках ідуць на сцэнах замежных оперных тэатраў. Ён вандруе па Еўропе, але не забываецца на Мінск. У беларускай музкамедыі Паклітару паставіў эксперыментальныя балеты "Імгненні" на вершы Бальмонта, дзе станцаваў сам, "Свет не сканчаецца ля дзвярэй дома" на музыку Густава Малера і Жаскена дэ Прэ. Уяўляеце, як трэба ведаць музыку і літаратуру, каб прапаноўваць такія незвычайныя спалучэнні кампазітараў і літаратараў, ды яшчэ і адлюстроўваць усё гэта на мове харэаграфіі!

Зразумела ж, пара Дзятко—Кузняцоў была і застаецца галоўным інтэрпрэтатарам навацый Раду Паклітару. Пастаўленае ім для Юліі і Канстанціна ў 2000 годзе "Адажыо" з балета "Лебедзінае возера" П.Чайкоўскага сваім нетрадыцыйным вырашэннем класікі так уразіла членаў журы Міжнароднага конкурсу артыстаў балета ў Варне, што яны, не задумваючыся, прысудзілі гэтай мініяцюры першае месца.

Так, Раду Паклітару — парадаксальны мастак. Ён прапаноўвае ў харэаграфіі стыль высокай моды, у якім спалучаецца рафініраванае эстэцтва і непрыхаваны кураж. Ад яго прац заўседы чакаеш нечага новага, і ён заўсёды апраўдвае гэтыя чаканні.



*Ю.Дзятко і К.Кузняцоў у балеце "Эсмеральда".*

Ці будзе так і на гэты раз? Бо на вечары Ю.Дзятко і К.Кузняцова адбудзецца чарговая ***прэм'ера*** — аднаактовы балет ***"In PIVO veritas"*** на ірландскую піўную музыку і музыку эпохі Рэнесанса.

Інтрыгуе?

А наступныя свае словы Раду папрасіў "запратакаліраваць" асабліва дакладна.

*"У новай рабоце аўтары і выканаўцы не абцяжарваюць сябе распрацоўкай глыбінных канцэпцый,* — дыктаваў ён, зазіраючы ў мой блакнот. — *Яны прыдумалі спектакль для задавальнення сваёй неўтаймаванай прагі танца і спадзяюцца, што задавальненне публікі будзе хаця б часткова адпавядаць таму, якое зведваюць яны пры выкананні гэтай харэаграфіі".*

Здаецца, я нічога не пераблытала...

Юлія Дзятко, Канстанцін Кузняцоў і Раду Паклітару чакаюць сустрэчы са сваімі гледачамі.

**Вольга БРЫЛОН.**

# Крыжаванка



1.Саломарэзка. 2.Беларускі народны танец. 3.Прыстасаванне для сушкі снапоў. 4.Паэма Ул.Маякоўскага. 5.Адзінка ўліку выйгрышаў у спорце. 6.Горад тэкстыльшчыкаў у Беларусі. 7.Вялікая лыжка для налівання стравы. 8.Асобна ўзятае зерне, раслінка. 9.Даўней: багаты памешчык, буйны землеўладальнік. 10.Асобнае памяшканне ў вагоне. 11.Больш-менш закончаная частка мастацкага твора. 12.Шуба футрам унутр і наверх. 13.Абаронца якога-небудзь вучэння, ідэі, парадкаў. 14.Пэўны прамежак часу. 15.Рэкламны газ. 16.Частка твару чалавека. 17.Жалезныя вілы для накідвання і разбіўкі гною. 18.Грубае даматканае палатно. 19.Музычны твор. 20.Схіл, адкос. 21.Тонкі блін з прэснага пшанічнага цеста. 22.Рабро на дошцы або брусе. 23.Частка спартыўнай гульні. 24.Адзінка даўжыні. 25.Частка электрычнай машыны. 26.Разумная падстава, слушнасць. 27.Жонка брата. 28.Подсціл для стога. 29.Дробныя плямкі іншага колеру на чым-небудзь. 30.Горад у Віцебскай вобласці. 31.Рух нагой пры хадзьбе. 32.Расліна сямейства парасонавых. 33.Прылада для адгладжвання бялізны, адзення.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**

## Адказы на чайнворд, надрукаваны ў №29

1.Блёкат. 2.Трухляк. 3.Крышан. 4.Назоўнік. 5.Кіт. 6.Тлушч. 7.Чарот. 8.Тузін. 9.Нарыс. 10.Сёмуха. 11.Асярод. 12.Далеч. 13.Чад. 14.Дазвол. 15.Лічэбнік. 16.Кураня. 17.Ядловец. 18.Цуглі. 19.Імпэт. 20.Туляга. 21.Амялушка. 22.Асяроддзе. 23.Енк. 24.Кавун. 25.Намітка. 26.Абгляд. 27.Дзейнік. 28.Казелец. 29.Цырульнік. 30.Кідальнік. 31.Кірмаш. 32.Шамкі. 33.Істота. 34.Асяродак. 35.Каташок. 36.Камізэлька. 37.Абцас. 38.Спод.



## Робот с человеческим лицом

На ежегодной встрече, организованной Американской ассоциацией за прогресс в науке, которая прошла в Денвере, показан робот, который умеет выражать на своем лице различные эмоции.

Создал это чудо Дэвид Хэнсон, который раньше работал на студии мультфильмов Уолта Диснея, а сейчас трудится в техасском университете в Далласе.

В созданной им голове робота в глаза вмонтированы камеры, которые внимательно следят за собеседником. Затем при помощи сложного программного обеспечения в действие приводится не менее сложная механика, которая управляет искусственными мускулами лица. В результате андроид, который называется K-bot, может улыбаться, хмуриться и даже щуриться, копируя вашу мимику, причем реакция практически мгновенна — задержка составляет менее секунды.

Автор проекта считает свое достижение весьма важным шагом к "очеловечиванию" роботов.

**21**
**лютага**

**ПЯТНІЦА**
Усх. 7.17 Зах. 17.31
Даўж. дня 10.14
Апошняя квадра
23 лютага

Сёлета спаўняецца **205 гадоў** з часу заснавання (1798) Хомскай суконнай фабрыкі (Драгічынскі р-н)

## Пятница, 21 февраля

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**06.15, 07.15** Доброе утро, Беларусь!
**08.15, 18.20 "Великий Мерлин".** Сериал (США-Великобритания).
**09.15, 17.05 "По имени Барон".** Сериал (Россия).
**10.05** Сад мечты. Передача для дачников.
**10.30** "На перекрёстках Европы". Национальный телефестиваль песни.
**11.15, 22.00 "Магия любви".** Сериал (Венесуэла).
**12.20** Добрый день, Беларусь!
**13.05** Драма **"Повесть о настоящем человеке"** ("Мосфильм").
**14.40** Добрый день, Беларусь!
**15.20** "Самая плохая ведьма". Сериал для детей (Великобритания).
**15.50** 5 чудес.
**16.00** "Это классно!" Молодежный сериал (Международный Французский Канал).
**16.25** 5 х 5. Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**19.05** Комедия **"Человек, который судился с Богом".** (Австралия).
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.45** Новости региона.
**22.45** Зона Х.
**23.20** Драма **"Зверь, выходящий из моря".** (Литва - Россия).

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.40** ОНТ представляет: "Наши новости".
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05, 19.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Многосерийный фильм **"Следующий" ("Next-2").** 2-я серия.
**10.40** Человек и закон (с сурдопереводом).
**15.30** "Новый день". "С "Обломовым" к людоедам".
**16.00** "Новый день". "Гении и злодеи". Владимир Даль.
**16.25 "Батальоны просят огня".** 4-я серия.
**17.30** Юмористическая программа "Сами с усами".
**18.10** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**20.00** Время.
**21.00** "Поле чудес" с Леонидом Якубовичем.
**22.05 "Мафия".** Комедия. США, 1998 .
**23.55** Триллер **"Море любви".** США, 1989.

### РОССИЯ

**08.35** Телефильм **"Семнадцать мгновений весны".**
**10.00, 19.00** Вести.
**10.20** В поисках приключений.
**17.50** Аншлаг.
**18.50** Вести. Дежурная часть.
**19.30** Местное время. Вести - Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Телесериал **"Леди Мэр".**
**20.55** Премьера. Сольный концерт Александра Розенбаума "Неужели это было".

### КУЛЬТУРА

**15.10** "Легкий жанр". Ведущий А.Гуревич.
**15.40** Несколько этюдов о русском языке.
**16.00** "Парижский журнал". "Медон".
**16.30** "Опасные тропы". Документальный сериал (Франция).
**17.30** Вести.
**17.40** Новости культуры.
**17.55** Полуденные сны.
**18.25** "Террор в отдельно взятом городе". "Столыпин должен быть убит".
**18.55** Ток-шоу "Оркестровая яма". Ведущий А.Варгафтик.
**19.35 "Стоптанные башмаки Бога".** Художественный фильм (Франция, 1999). Режиссер Ж.К. Бриссе.
**21.25** "Линия жизни". Александр Гельман.
**22.20** Блеф-клуб.
**23.00** Новости культуры.
**23.25** "Кто там..." Авторская программа В.Верника.
**23.50 - 23.55** Программа передач.

### НТВ

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** Документальная драма "Преступление и наказание".
**10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00** Сегодня.
**10.05** "Квартирный вопрос". "Розовое на белом".
**14.35** "Доверьте тайну женщине". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.05 "Кодекс чести".** Боевик.
**17.15** Криминал.
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.35** "Свобода слова" с Савиком Шустером.
**19.55 "На секретной службе Ее Величества"** (Великобритания).
**22.40** "Все сразу!" Ночные развлечения.
**23.15** Комедия Этьена Шатилье **"Любовь в лугах"** (Франция).

### СТВ+RenTV

**05.00** Музыкальный канал.
**05.30, 14.35 "ОБЖ, или...".** Телесериал.
**06.00, 15.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.25, 15.25** "Джим Баттон". Мультипликационный сериал.
**06.50, 15.00** "Инспектор Гаджет". Мультипликационный сериал.
**07.15, 17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.25, 13.30, 16.30, 19.30, 22.35** "24 часа".
**07.45** "СТВ-спорт".
**07.55** "Завтрак с Инной Афанасьевой".
**08.00** "Минск и минчане".
**08.05** "Технология".
**08.15** Мелодрама **"Счастливые случаи".** США, **2000.**
10.10 "Игровой рефлекс".
**10.20** "Добро пожаловаться".
**10.30** "Под углом 23 с половиной". Документальный фильм.
**11.00** "Автопанорама".
**11.15** "Театральные истории".
**11.30 "Сага о Форсайтах".** Телесериал. Заключительная серия.
**12.30** "Семейные страсти". Ток-шоу.
**13.45 "Спецназ. Засада".** Телесериал.
**16.15** Мультипликационный фильм.
**16.45** "Такая профессия".
**17.20** "Все для тебя".
**18.05** "Пока горит свеча".
**18.35 "Спецназ. Клинок".** Телесериал.
**19.50** "Новости СНГ".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.25** "Автопанорама".
**20.45** Комедия **"Только ты".** США, 1994.
**22.55** "Технология".
**23.05** Боевик **"Громила" в Египте".** 1979 г. Италия.
**00.50** Музыкальный канал.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** Мульт-парад.
**17.45** Комедия **"Такси".**
**19.15** "Банка комиксов".
**19.40** Многосерийный фильм **"Батальоны просят огня".**
**20.30** Телемагазин.
**20.40** Международные новости с "Дойче велле".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** К-видео "Топ-8".
**21.10** Художественный фильм **"Верность".**

### ТВ ЦЕНТР

**05.00** Информационно-развлекательный канал "Настроение". (В **06.00 и 07.00** - События. Время московское).
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Смотрите на канале.
**08.05 "Загадочная женщина".** Телесериал (Венесуэла).
**08.55** "Мальчик с пальчик". Мультфильм.
**09.10** Выдающиеся разведчики XX века.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.10** Игра в прятки.
**11.30** А у нас во дворе...
**11.55** Денежный вопрос.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Деррик".** Криминальный телесериал (Германия).
**14.20** Хозяйке на заметку.
**14.30** Всё о здоровье в программе "21-й кабинет".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Живой уголок.
**16.00** Высокое измерение.
**16.15** Тюрьма и воля.
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00 "Узы любви".** Телесериал (Мексика).
**18.35** Хозяйке на заметку.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Фильм **"Шторм"** (США).
**20.45** Социальный репортаж.
**21.40** Русский век.
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30-01.35** "Открытый проект". Молодежный канал.

### EUROSPORT

**09.45** Олимпийский журнал. Повтор.
**10.15** Двоеборье. Чемпионат мира. Прыжки с трамплина К-95. Прямая трансляция.
**11.30** Биатлон. Кубок мира. Остерсунд. Спринт, мужчины. Повтор.
**12.15** Лыжные гонки. Чемпионат мира. 15 км, классический ход. Мужчины. Прямая трансляция.
**13.15** Санный спорт. Чемпионат мира. Сигулда. Двойки. Прямая трансляция.
**14.30** Двоеборье. Чемпионат мира. Прыжки с трамплина К-95. Повтор.
**15.00** Биатлон. Кубок мира. Остерсунд. 20 км, мужчины. Прямая трансляция.
**17.00** Двоеборье. Чемпионат мира. Лыжная гонка. Прямая трансляция.
**19.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира. Квалификация. Прямая трансляция.
**21.00** Легкая атлетика. Турнир в Бирмингеме. Прямая трансляция.
**23.45** Гоночная серия Карт. Превью сезона.
**00.15** Экстремальные виды спорта. Журнал. Повтор.
**01.15** Теннис. Турнир WTA в Дубаи. Полуфинал.


**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**




**Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Чырвоная зорка", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 1. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 35 590 экз. Заказ №663.**